Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 26 лютага 1930 г. №. 9

## Якуб Колас—за кратамі!

Праз Прагу мы атрымалі непадобную да веры, жудасную вестку:

**„Якуб Колас арыштаваны й сядзіць у менскім вастрозе“.**

Чаму? За-вошта? На гэтае пытаньне мы афіцыяльнага адказу ня маем. Але дагадацца істотнае прычыны арышту—ня трудна.

Колас—гэта-ж пявец беларускае вёскі, ідэолёг нашага сялянства з яго адвечнай цягай да зямлі — да **сваей зямлі, да самастойнай, індывідуальнай гаспадаркі.** І пакуль істнаваў у савецкай палітыцы ленінскі курс на ўсебаковае разьвіцьцё сялянскае вытворчасьці, курс на так званую „хутарызацыю“, дагэтуль камуністычнай партыі Колас быў любы, як вялізарны талент, каторы апяваў новае жыцьцё, новы лад пад уладай работнікаў і сялян. Совнарком (Рада Народных Камісараў) Беларусі ў дзень дваццацілецьця літэратурнае працы Коласа даў яму пачэсны тытул **Народнага Поэты,** зьвязаны з дажывотнай пэнсіяй. А калі пачалася „чыстка“ Беларускае Акадэміі Навук—ад беларусаў, дык навет і тады сталінаўскія лякаі прызналі магчымым узьвясьці Коласа, скромнага народнага настаўніка, на высокае становішча віцэ-старшыні Беларускае Акадэміі Навук. Але вось „хутарызацыя“ абвяшчаецца Сталінам за „правы ўхіл“. Тых, хто, згодна з ленінскай лініяй, у працягу дзесяцёх гадоў разьвіваў хутарскую гаспадарку, выганяюць і з іх становішчаў, і з партыі. З яўна правакацыйнай мэтай, каб узарваць новы лад і здабычы працоўных у СССР. Сталін загадвае ў недарэчным „баявым“ парадку ліквідаваць самастойныя сялянскія гаспадаркі, і сялян індывідуалістаў, упэўненых савецкай уладай у іх неад'емным праве жыць так, як яны хочуць, штыхамі заганяюць у „калгасы“, прыказываюць ім „зрабіцца“ камуністамі-калектывістамі і здаць у калектывы ўсю сваю маемасьць. **Разгараецца запраўдная вайна савецкае ўлады з сялянствам.** І з гэтага мамэнту Колас ужо „ня люб“ сталінаўскім агентам: яго голас, думкі яговых твораў—гэта ўжо „аджыло свой век“, гэта не адпавядае новаму палітычнаму курсу, распачатаму Сталінам. Пачынаючы **барацьбу з сялянствам,** Сталін зусім пасьлядоўна перад усім стараецца зьніштожыць ідэолёгаў сялянства. І першы ўдар дастаецца найвялікшаму, найвыдатнейшаму з іх—Якубу Коласу.

Але мы падымаем свой голас пратэсту проці ганебнага паступку сталінаўскіх „малайцоў“ з Коласам—не ў імя тых ці іншых сацыяльных ідэалаў яго. Для нас Якуб Колас—гэта перад усім **вялізарны поэтыцкі талент,** які, як ніхто дагэтуль, адчуў і выявіў душу беларускага селяніна,—выявіў яе ў творах **аграмаднае мастацкае цэннасьці,** нячувана ўзбагаціўшы гэтак нашу культуру. Творы Коласа сьмела можна раўнаваць да найвыдатнейшых твораў сусьветнае літэратуры. І замах Сталіна і яговых „апрычнікаў“ на асобу Якуба Коласа — **гэта замах перад усім на нашае нацыянальнае адраджэньне, на беларускую культуру:** бо творчыя сілы Коласа йшчэ далёка нявычарпаны, бо ён яшчэ можа і мусіць даць многа новых літэратурных цэннасьцяў, якіх народ беларускі чакае ад яго. І тое, што гэты вялікі творчы дух аказаўся ўпхнёны за каменныя сьцены вастрогу, каб нашы сялянскія масы не пачулі больш голасу свайго геніяльнага песьняра,—гэта-ж найбольшая ганьба для тых, што мо' й у добрай веры служаць чырвонаму маскоўскаму дыктатару, грузінскаму рэнэгату Сталіну.

**Увесь беларускі народ працоўны, усе беларускія сялянскія масы,** а перад усім—**выйшаўшая з пад саламяных стрэх наша нацыянальная інтэлігенцыя—мусяць голасна,** на ўвесь сьвет запратэставаць **проці бяспрыкладнага гвалту „чырвонае“ Масквы над найлепшым, найвялікшым** сынам беларускае працоўнае вёскі. Мы клічам усіх, у кім б'ецца беларускае сэрца, падваць свой голас проці такога зьдзеку над нашай культурай і нацыянальнасьцяй, зьдзеку, які мы бачылі хіба толькі ў часы панаваньня найчарнейшае палітычнае рэакцыі ў царскай Расеі, калі той-жа Колас за жаданьне беларускае школы тры гады пакутаваў у мурах таго ж менскага вастрогу, куды ўкінуў яго цяпер Сталін з сваімі „апрычнікамі“.

Вон брудныя рукі ад таго, што для працоўных масаў Беларусі зьяўляецца найвялікшым, найдаражэйшым скарбам!

## Скасаваньне выбараў у Сойм у Лідзкім вокругу.

**Найвышшы Суд дня 24.II-30 разглядзеў пратэсты проціў выбараў у Сойм і Сэнат у некаторых вокругах, між іншым і проціў выбараў у Сойм у Лідзкім вокрузе. Адкінуўшы ўсе іншыя пратэсты Найвышшы Суд прызнаў такі пратэст слушным у Лідзкім вокругу і гэтым самым скасаваў выбары ў Сойм.**

**У зьвязку з гэтым трацяць мандаты: Ян Станкевіч—беларус, Флегонт Валынец з Клюбу „Змаганьне“, Казімір Акуліч, Уладыслаў Камінскі, Ян Шчэрба, Язэп Лойко—з Клюбу „Б. Б.“ і Гіпаліт Гарневіч з Кл. Х. Д.**

## Як ашуківаюцца масы.

Хіба ўсім ведама, тая зьвяга на грам. **Луцкевіча, Астроўскага і іншых дзеячоў радыкальнага кірунку,** якую распачала камуністычная партыя, вінавацячы іх у тым, **што яны вялі акцыю сярод пэўных колаў польскага грамадзянства, стараючыся дабіцца звальненьня засуджаных на 12 гадоў павадыроў Беларускае Сялянска Работніцкае Грамады,** б. паслоў Сойму Тарашкевіча, Мятлы, Рака-Міхайлоўскага і Валошына ды іх найбліжэйшых супрацоўнікаў. Чаго-чаго ня кідалася на галовы гэтых дзеячоў за іх зусім натуральнае імкненьне вызваліць сваіх таварышоў з вастрогу! Гэная акцыя была абвешчана „здрадай інтарэсаў працоўных“, „пераходам у лагер фашыстаў“, „выслугоўваньнем польскай дэфэнзыве“ і г. д. І вось цяпер тая-ж камуністычная партыя робіць на тых-жа павадыроў беларускага адраджэнскага руху—новую напасьць, але цяпер ужо за тое, што яны быццам... **нічога ня робяць дзеля звальненьня Тарашкевіча і інш.!**

Вось што—даслоўна!—надрукавана ў № 24 „Савецкае Беларусі“ (пад новым „сталінаўскім“ кіраўніцтвам) пад загалоўкам: **„Проці махінацыі Луцкевіча і К-о“.**

> **„ВІЛЬНЯ, 20. У некаторых польскіх газэтах беларускія нац.-фашыстыя зьмясьцілі заметкі аб тым, што нібы яны нешта робяць для вызваленьня былых паслоў рабоча-сялянскай Грамады. Гэты агідны манэўр робіцца затым, каб ашукаць беларускія працоўныя масы, якія сапраўды вядуць барацьбу за вызваленьне зьняволеных паслоў“.**

Чытайце, людцы, і скажыце, што-ж гэта за новае баламуцтва?!

Характэрна й тое, што нам нічога ня ведама аб зьмяшчэньні падобных заметак у польскіх газэтах!

## Каапэратызацыя вёскі.

Хаотычная гаспадарка вёскі павінна быць упарадкавана. Яе розналітая будова павінна ўліцца ў новыя формы. Старая форма выключна індывідуальнага гаспадараваньня вёскі аджывае свой час. Разрозьненасьць, нястача аб'яднаньня гаспадароў гамуець усялякі поступ вёскі. Вёска павінна выступіць, як моцны эканамічны чыньнік у ўсіх галінах сваей гаспадаркі.

Каб гэта сталася і правялося ў жыцьцё, вёска павінна быць скаапэратызована. Скаапэратызаваць—значыць наладзіць гаспадарчае аб'яднаньне сялян, адкінуць і таго прыватнага пасярэдніка ў гандлі, якім выключна карыстаецца вёска і за што плаціць яму ня толькі нязлічоную даніну, але, дзякуючы яму і далей застаецца ў стане гаспадарчай анархіі, бяз ніякае спайкі.

Бяз сумліву ў свой час пасярэднік быў карысны й незамянімы, але з ходам часу, з поступам культуры, тэхнікі, грамадзкай мысьлі, з выступленьнем на арэну жыцьця вялікага „зборнага чалавека“ ў форме ўсялякіх гаспадарчых аб'яднаньняў, здольных здаволіваць сваімі сіламі свае патрэбы—усё гэта зрабіла тое, што роля прыватнага пасярэдніка стала малець.

Прамысловае разьвіцьцё 19 га і 20-га веку адзначылася канцэнтрацыяй розных прадпрыемстваў і ня толькі ў межах нейкага аднаго краю, але навет у міжнарадовых межах. Паўстаюць міжнародавыя картэлі, трэсты і інш. Тлумачыцца гэтае зьявішча ўмовамі вольнай канкурэнцыі (змаганьня) ды самым характарам гэтых прадпрыемстваў, бо толькі вышэй арганізаваныя і тэхнізованыя могуць таньней вытвараць і тым зьядаць усе драбнейшыя прадпрыемствы.

Але гэтая канцэнтрацыя, узрастаючая да грамадных разьмераў у галіне промыслу і гандлю, зусім малы поступ зрабіла ў галіне сельскай гаспадаркі, і дагэтуль тут выяўляецца як-бы адваротны працэс: буйныя гаспадаркі—двары—парцэлююцца на дробныя калёніі, і ідзе амаль не заўважываецца лучэньня дробных гаспадарак у буйнейшыя—ані дабравольнага, ані пад націскам другіх якіх прычын *). Гэта зьявішча можна вытлумачыць зусім асаблівымі ўласьцівасьцямі зямлі, як чыньніка прадукцыі, маючага зусім іншую аснову, чым промысл ці гандаль. Яшчэ і дагэтуль для эканамістаў зьяўляецца нявырашаным пытаньне: якімі-ж лініямі пойдзе разьвіцьцё сельскай гаспадаркі? Ці пойдзе яно ў бок збуйненьня дробных гаспадарак і ператварэньня як-бы ў фабрыкі хлеба? Ці прыме формы невялічкіх індывідуальных гаспадарак—высока тэхнізованых?—Але жыцьцё, здаецца, ня лічыцца з тэарэтыкамі і іх спрэчкамі і йдзе сваім шляхам. Прынамся ў цэлым радзе краін зроблены значны поступ у кірунку ўмацаваньня і тэхнізацыі дробных гаспадарак, як Даніі, Фінляндыі і інш., дзе дробныя вясковыя гаспадаркі твораць паміж сабой адно цэлае ў вольных каапэрацыйных аб'яднаньнях—каапэрацыі: спажывецкай, зямляробскай, крэдытнай, малачарскай і інш.

Найхутчэй, што і ўсюды вёска, каб ня згінуць у здрабнелых гаспадарках, пойдзе па гэтай лініі,—лініі **каапэратызму,** якая злучаець у сабе дагоднасьці буйных гаспадарак, захоўваючы адначасна самастойнасьць невялічкіх сялянскіх гаспадарак, што дае магчымасьць ім як найрацыянальней выкарыстаць тую ці іншую галіну разнастайнае вясковае вытворчасьці.

У той час, калі ў буйных гаспадарках паяўляюцца нат' паравыя трактары, малатарні і другія машыны, у нашай вёсцы можна йшчэ часта спаткаць драўляную саху, цэп, жорны, кросны, ці—карацей кажучы—усе прылады натуральнай гаспадаркі сярэдніх вякоў. І, ня гледзячы на гэткую тэхнічную адсталасьць, дробныя сялянскія гаспадаркі ня зводзяцца, а, наадварот, колькасьць іх расьце коштам буйных, і гэты працэс выяўляецца з малымі выняткамі на ўсім сьвеце. Гэтае зьявішча даказывае жыцьцёвасьць малых сялянскіх гаспадарак. Але гэтага мала: трэба іх папхнуць на шлях поступу, тэхнізацыі, што магчыма толькі пры каапэратызацыі.

Калі вёска шляхам лучэньня ў вольныя каапэратыўныя саюзы зьліквідуе сваю тэхнічную адсталасьць і пазбудзецца прыватнага пасярэдніка, стаўшагася непатрэбным цяжарам, дык адразу распачнецца новае жыцьцё, новая эра каапэратывізму.

З маленячкага гэтага агляду мы можам бачыць, які вялізарны крок наперад прадстаўляе для вёскі ўяўленьне значэньня каапэрацыі;—асабліва датычыць гэта нашай вёскі беларускай, закіненай, загнанай, цёмнай, пакрыўджанай дужымі гэтага сьвету,—вёскі, якая зьяўляецца падатнай глінай на розныя, часта балючыя экспэрымэнты культуртрэгераў з Усходу ці Заходу.

Можна сказаць, што **каапэратывізм** для нас застаецца адзіным пэўным шляхам, які нас ніколі ня здрадзіць, вядучы нас да вызваленьня эканамічнага і культурнага. І толькі па ім дружна ідучы, мы выйдзем на торную дарожку культурнага чалавечага жыцьця.

„Лукішкі“. **Ар. Ат.**

*) Артыкул напісаны ў вастрозе, і аўтар, відаць, ня ведае яшчэ аб прымусовым—пад штыхамі чырвонае арміі—„калектывізацыі“ дробных сялянскіх гаспадарак у СССР. Рэд.

Перачытаўшы газэту — перадай другому.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### На пленум Сойму.

Пасьля прыняцьця бюджэту Сойм разглядзеў за апошні тыдзень рад чарговых справаў і зацьвердзіў рад міжнародавых умоваў Польшчы.

На паседжаньні 18 лютага адбыўся разгляд закону аб наборы рэкрутаў на бягучы год. Як ведама, парлямант дае ўраду, як і бюджэт, штогодны набор жаўнераў, — асобным законам, без таго ўрад ня мае права браць рэкрутаў. Вось, пры разглядзе гэтае справы здарыўся чарговы скандал з паслом камуністам Жарскім. Ен выступіў востра проці таго, каб парлямант даваў „фашыстоўскаму ўраду Пілсудскага“ новае войска, кажучы, што гэтым і Сойм прымае ўчасьце... ў правакаваньні вайны з СССР. Старшыня, які ў працягу ўсей прамовы пасла Жарскага рабіў яму перасьцярогі, урэшце пазбавіў яго слова. Але той не паслухаў загаду старшыні. Тады соймавая стража вынесла на руках непакорнага пасла, які быццам усьцяж гаварыў абразьлівыя словы, за што на яго накінуліся й пабілі два паслы з П. П. С.: адзін з іх трымаў яго, а другі біў...

Выпадак гэты меў яшчэ далейшы працяг. На наступным паседжаньні Сойму старшыня Дашынскі зрабіў заяву, у якой сказаў, што да яго зьвярнуліся некаторыя клюбы, трэбуючы, каб ён зусім выкінуў з стэнаграму (даслоўных справаздачаў) соймавага паседжаньня ўсю „правакацыйную прамову“ п. Жарскага. Але ён, старшыня, гэтага зрабіць ня мае права, бо-ж гэта было-б абмежаньне правоў паслоў і Сойму. Ен можа зрабіць толькі патрэбную цэнзуру прамовы, ці выкіне з яе недапушчаныя для друку мейсцы.

Сойм разглядзеў даклад спэцыяльнай камісіі ў справе надужыцьцяў у міністэрстве шляхоў-камунікацыі пры дастаўе шпалаў. Вывады камісіі — забойчыя. Міністар зацята бараніўся, даводзячы памылкі камісі і заяўляючы, што ўмяшацельства Сойму ў унутраныя справы ўпраўленьня чыгунак — недапушчальнае, бо „аслабляе павагу ўлады“ і т. д. Але ясна, што Сойм з гэткімі разглядамі міністра ня згодзіцца й пацягне ўсіх вінаватых пад суд.

### „Направа“ канстытуцыі.

У канстытуцыйнай камісіі Сойму закончылася агульная дыскусія над паданымі ў Сойм праектамі рэформы канстытуцыі. Праектаў, як ведама, два: клюбу „Б.Б.“ і — лявіцы. Першы праект хоча завясьці ў Польшчы пад назовам рэспублікі — праўдную абсалютную манархічную ўладу прэзыдэнта, другі хоча, наадварот, яшчэ пашырыць уладу народную ў гаспадарстве, уводзячы нават наагул в. небясьпечныя беспасярэднія выбары прэзыдэнта ўсенародным галасаваньнем. Як ведама, цяпер прэзыдэнт выбіраецца злучаным паседжаньнем Сойму і Сэнату.

У апошні мамэнт — ужо пасьля зачыненьня агульнай дыскусіі — ў камісію падана быў яшчэ трэці праект — партыяў цэнтру: „Пяста“, „Хадэцыі і „Н.П.Р.“ (нацыянальная работніцк. партыя), які прадстаўляе даволі недарэчную мешаніну двух першых. Есць яшчэ і „папраўкі да канстытуцыі“, ці праект дэп. Гломбінскага — эндэцкі. Праект добра апрацаваны, але скіраваны галоўным чынам проці меншасьцяў, а перадусім проці беларусаў і ўкраінцаў, пазбаўляючы іх значна палітычных правоў і абрэзываючы іх прадстаўніцтва ў ў парляманьце.

### Канец „прэсавага дэкрэту“.

Сэнат прыняў — пасля гарачага спраціву з боку сэнатараў з клюбу „Б. Б.“ — законапраект Сойму аб абавязкавым апублікаваньні ў „Dziennikи Ustaw“ пастановаў Сойму аб скасаваньні незацьверджаных Соймам дэкрэтаў прэзыдэнта. Як ведама, бліжэйшым чынам гэты законапраект меў мэтай змусіць урад да апублікаваньня пастановы Сойму аб скасаваньні аслаўленага „прэсавага дэкрэту“.

Такім чынам у хуткім часе сіла дэкрэту будзе спынена. Але, як чутно, урад рыхтуе ўжо нейкі акульнік да пракурораў і старастаў — у справе прэсавых рэпрэсіяў.

## Заграніцай.

### Працэс украінскіх нэзалежнікаў у Харкаве.

Працэс 95 выдатнейшых дзеячоў украінскага грамадзянства з праф. Ефрэмавым, б. віцэ-прэзыдэнтам Украінскай Акадэміі Навук, на чале— ізноў адкладзены.

Усе гэтыя дзеячы вінавацяцца радавай уладай у тым, што быццам яны стварылі тайную арганізацыю, меўшую мэтай падрыхтаваньне аружнага паўстаньня—дзеля зваленьня радавае ўлады і заняцьця Кіева і ўсей Украіны, якую зараз-жа абвясьціць незалежнай. Акт абвіненьня кажа, што гэтую арганізацыю ўкраінскіх незалежнікаў, падтрымлівала духавенства, арганізаванае ў каапэратывы сялянства і работнікі некаторых фабрыкаў краю. Апрача таго, у склад арганізацыі незалежнікаў уваходзіла шмат радавых урадоўцаў, — асабліва—з камісарыяту землявробства.

Працэс мае распачацца ў першай палове сакавіка.

### СССР—Нямеччына.

Адносіны—як гаспадарчыя, таксама і палітычныя—паміж Нямеччынай і СССР пачалі неяк шпарка псавацца. Нядаўна Нямеччына, не папярэдзіўшы СССР, дала манаполію Швэцыі на гандаль сернікамі, а, як ведама, Нямеччына была дагэтуль амаль не галоўным заходнім рынкам для расейскай сернікавай прамысловасьці. Цяпер ізноў нямецкі ўрад мае такую-ж самаю рэч зрабіць і з гандлем нафтай (газай). Увядзеньне газавай манаполіі будзе яшчэ цяжэйшым ударам па радавому вывазу, у якім вываз у Нямеччыну нафты займае в. значнае мейсца. Канкурэнтамі на гэтую манаполію выступаюць два найвялікшыя нафтавыя трэсты ў сьвеце: амэрыканскі і англійска-галяндзкі.

Нямецкі ўрад робіць гэта не дзеля таго, каб умысна пашкодзіць СССР, але дзеля таго, што яму патрэбны грошы — з прычыны вострага фінансавага крызісу. А за гэтыя манаполіі ён дастае ад гэных страшэнна багатых трэстаў значныя залічкі за некалькі гадоў наперад, дый яшчэ і вялізарныя пазыкі. Ведама-ж, радавы ўрад чым-чым, але гэтым канкураваць з Амэрыкай, Англіяй, а нават з Галяндыяй і Швэцыяй — ня можа.

Высьвятлілася, што на нафтавай манаполіі асабліва настайвае магутны трэст нямецкай хімічнай прамысловасьці, які ўжо сьведама хоча пашкодзіць СССР, ці націснуць на яго ўрад—за тое, што радавая хімічная прамысловасьць, наагул в. сільна разьвітая за апошні час, дзеля захвату замежных рынкаў, панізіла цэны сваіх вырабаў нават ніжэй уласнага кошту, дый гэтым выціскае з сусьветнага рынку нават прадукты слаўнай на ўвесь сьвет нямецкай хімічнай прамысловасьці.

Псуюцца і палітычныя адносіны паміж СССР і Нямеччынай. Варожыя адносіны да СССР выяўляюцца ўжо ня толькі з боку буржуазіі. Толькі—што партыя **нямецк. сацыял-дэмакратаў**, якая складае ядро ўрадавае коаліцыі, **у афіцыяльным камунікаце паставіла пытаньне, ці трэба і ці карысна надалей... падтрымліваць добрыя адносіны з урадам СССР?** Што дае гэта Нямеччыне?—пытаецца адозва нямецкіх с.-дэмакратаў. Даючы доўгі пералік усіх праяваў „вонкавай палітыкі“ маскоўскага ўраду й комінтэрну за апошні час, асабліва ў адносінах да Нямеччыны, падаючы далей цэлы рад нарушэньняў падпісаных умоваў, сталага мяшаньня да ўнутраных спраў Нямеччыны,—партыя заяўляе, што адказ на гэтае пытаньне ня выклікае сумліву. Таму партыя трэбуе, каб урад рашуча палажыў канец усяму гэтаму ненармальнаму стану рэчаў.

Апошнія крывавыя выступленьні камуністаў амаль не па ўсіх вялікіх местах Эўропы і абяцаньне новых, яшчэ больш крывавых,—страшэнна раздражнілі ўсё спакойнае буржуазнае, а нават і працоўнае насяленьне Нямеччыны. Імкненьне выкарыстаць крызіс і безработцьце—не ўдалося; урад, на чале якога стаяць сацыялісты, дае на безработных колькі патрэбна. У выніку высоўваецца думка нават аб зачыненьні ўсей камуніст. партыі ў Нямеччыне.

Ведама-ж, асаблівую актыўнасьць нямецкіх камуністаў тлумачаць, як і дзе інш, „загадамі з Масквы“. Дык расьце і абурэньне проці Маскоўскага Інтэрнацыяналу, а далей і проці ўраду СССР. Доказам гэтага абурэньня можна лічыць апраўдальны прысуд тым самым „фабрыкантам“ радавых чырвонцаў, працэс якіх толькі-што закончыўся ў Бэрліне.

Можна сабе прадставіць, якую буру гневу й злосьці выклікаў гэты апраўдальны прысуд у Маскве. Маскоўскі ўрад заявіў востры пратэст у Бэрліне. На гэта нямецкі ўрад адказаў суха, што нямецкі суд—абсалютна незалежны ад выканаўчае ўлады, дык апошняя ня можа нічога зрабіць у гэтай справе...

Наагул, адносіны паміж Нямеччынай і СССР псуюцца. Усё гэта можа быць растлумачана тым, што нямецкае грамадзянства, якое найляпей ведае, што робіцца ў СССР, спадзяецца нейкіх „рашучых пераменаў“ на Усходзе. Ці не дасьпяваюць плады правакатарскай работы Азэфа—Сталіна?

### Урадавы крызіс у Францыі.

17 лютага—у часе дыскусіі над бюджэтам—францускі парлямант выразіў ураду Тардье недаверра большасьцю 286 галасоў проці 281.

Непамыснае для ўраду галасаваньне зьявілася ў рэзультаце „здрады“ невялікай групы радыкалаў на чале з дэп. Даніэлем, якая падтрымлівала ўрад, а цяпер перайшла, як відаць, у апазыцыю. Апазыцыя, з радыкал-сацыялістамі на чале, даўно рвецца да ўлады. Яна закідала ўраду, што ён зьбірае ў сваіх руках вялізарныя сумы гатоўкі, замест таго, каб кінуць гэтыя бюджэтныя лішкі даходаў на зьменшэньне падаткаў, вельмі цяжкіх для насяленьня, а так сама—на ўсялякія віды сацыяльнай дапамогі працоўнаму народу.

Праўда, урад Тардье зьменшыў ужо на $2^1/_2$ мільярды франкаў падатковы цяжар у бюджэце і кінуў некалькі мільярдаў на розныя карысныя выдаткі для шырокіх масаў насяленьня. Але апазыцыя, дый наагул парлямант слушна баіцца пакідаць у руках ураду значныя сумы так-званай „вольнай гатоўкі“... Дык апазыцыі лёгка было адарваць ад урадавай большасьці шмат галасоў.

Цікаўна, што паражэньне ўраду здарылася ў адсутнасьці хворага прэмьера Тардье, які аднак-жа зараз-жа падаў прэзыдэнту прашэньне аб адстаўцы ад імя ўсіх міністраў. Прэзыдэнт прыняў адстаўку ўраду Тардье і даручыў стварэньне новага габінэту аднаму з павадыроў радыкалаў, якія выклікалі падзеньне папярэдняга ўраду,— дэп. Шотаку.

### „Пасыўна-рэвалюцыйны рух“ у Індыі.

Арыгінальны „рэвалюцыйны“ рух—шляхам байкоту англійскага гандлю і пасыўнага спраціўленьня англійскай уладзе—прымае ў Індыі ўсё больш радыкальныя і шырокія формы.

Ведамы павадыр індусаў, тварэц гэтай тактыкі барацьбы за вызваленьне краю ад улады чужых наездчыкаў, Гандзі, абвешчаны конгрэсам староньнікаў гэтага руху за „дыктатара Індыі“ ў гэтай „кампаніі мірнага праціўленьня“ англійцам. Англійскаму віцэ-каралю Індыі высланы ультыматум—з радам дамаганьняў; на першым месцы стаіць дамаганьне скасаваньня манаполіі на соль, якой англійцы трымаюць крэпка ў сваіх руках насяленьне Індыі—лепш яшчэ, як аружнай сілай войска й паліцыі. Дзеля гэтага ў усе саляныя шахты і салярварні разасланы агітатары, якія павінны выклікаць забастоўку ўсюды, калі трэбаваньне гэтае ня будзе споўнена англійцамі.

## З жыцьця Чэхаславаччыны.

*(Ад нашага карэспандэнта).*

### 80 гадовы юбілей прэзыдэнта Т. Г. Масарыка.

Увесь чэхаславацкі народ пільна падрыхтоўваецца дастойна адсьвяткаваць дзень васьмідзесяцілецьця нараджэньня свайго першага прэзыдэнта і тварца Чэхаславацкае Рэспублікі Т. Г. Масарыка. Дзень гэты прыпадае на 7 сакавіка с. г. і будзе ўрачыста адсьвяткаваны ня толькі ў местах, але і ў кожнай вёсцы. Справай сьвяткаваньня кіруе камітэт міністраў. Будуць парады войск, трыўмфальныя працэсіі, лекцыі, рэфэраты, а ў тэатрах адумыслова празначаныя к гэтаму дню прадстаўленьні. Будуць заложаны новыя школы— асабліва для народных меншасьцяў, бальніцы, памятнікі, кнігарні, чытальні, стыпэндыі для вучашчыхся, розныя дабрачынныя ўстановы і дамы па ўсей рэспубліцы на шмат мільёнаў чэскіх карон. Маюць быць выпушчаны новыя паштовыя маркі і штэмпэлі з датай юбілейнага дня. Кажуць, што будзе дана амністыя палітычным вязьням.

Ня глядзячы на свае 80 гадоў, прэзыдэнт Масарык у руху не ўступае маладому чалавеку: езьдзіць конна, ходзіць далёка пехатою, бывае ў тэатрах, адведвае мастацкія і гаспадарчыя выстаўкі. Амаль ня кожнага дня можна яго спаткаць на тратуарах Прагі.

Апрача мудрага кіраваньня дзяржавай у духу праўдзівага дэмакратызму, асабістага прыйманьня міністраў, заграніцных паслоў і карэспандэнтаў, прэзыдэнт Масарык удзяляе шмат часу на размовы з рознымі, прыяжджаючымі з усяго сьвету, вучонымі, у якіх ён карыстаецца вялікаю папулярнасьцю. На ўсякія тэмы і актуальныя пытаньні вучоныя атрымліваюць ад Масарыка вычэрпываючыя тлумачаньні і адказы. Правай рукой прэзыдэнта зьяўляецца ведамы міністар заграцічных спраў, д-р Эдвард Бэнэш, які ад самага заснаваньня рэспублікі кіруе замежнай палітыкай Чэхаславакіі.

Газэты падалі вестку, што гэтымі днямі чэхаславацкі парлямант вынес пастанову, у якой сьцьвярджае ўсенародна, што прэзыдэнт Масарык добра заслужыўся бацькаўшчыне. Словы гэтыя будуць запісаны на камені, які ўмуруецца ў падножжы фігуры прэзыдэнта ў салі парляманту!

Беларуская калёнія ў Празе рыхтуецца адсьвяткаваць гэты вялікі дзень урачыстаю акадэміяй.

**М. Вершынін.**

Прага 8. 2. 1930.

## Кароткія навіны.

Старшыня Совнаркому СССР заявіў, што „праз два гады ў СССР не астанецца ніводнай прыватнай сялянскай гаспадаркі“, уся зямля пяройдзе у „калхозы“...

На завастрэньне рэлігійных прасьледаваньняў у СССР вельмі рэзка адгукнуўся рымскі Папа і рад іншых галоваў і прадстаўнікоў духавенства ўсялякіх рэлігіяў і вызнаньняў. Пратэст духавенства падтрыманы і з боку нязьлічанага роду сьвецкіх асобаў і ўстановаў на ўсім сьвеце.

Прыпісыванае бальшавіцкім агентам зрабаваньне ген. Кутепова ў Парыжу рашуча напсавала адносіны паміж Францыяй і СССР.

Упорна кажуць, быццам францускі ўрад мае разарваць дыплёматычныя зносіны з урадам СССР. Францускі ўрад быццам чакае толькі мамэнту, калі француская паліцыя здалее сьцьвярдзіць, што гэты захоп расейскага генэрала, якому Францыя гарантавала прытулак і нятыкальнасьць, як палітычнаму эмігранту, запраўды зроблены агентамі Г. П. У. („чэка“).

Урадавы крызіс у Францыі выклікаў часовы перарыў у працах марской канфэрэнцыі ў Лёндане. Да такога перарыву змусілі яшчэ і адбытыя ў мінулы чацьвер выбары ў японскі парлямант, якія могуць

так сама зьмяніць урад і ў Японіі. Узнаўленьне працы канфэрэнцыі адбудзецца толькі пасьля стварэньня новых урадаў у Францыі і Японіі.

У выніку рэзкіх напасьцяў з боку лявіцы англійскіх сацыялістаў, т. зв. „незалежнай работніцкай партыі", на англійскі сацыялістычны ўрад, галава апошняга, Мак-Дональд, які належаў сам да гэтай лявіцы, заявіў афіцыяльна аб сваім выхадзе з „незал. раб. партыі", астаючыся, зразумела, у „Партыі Працы" наагул.

У Прусах суд судзіў ведамага літоўскага эмігранта, сацыял-дэмакрата Плечкайтіса. Ен быў схоплены нямецкай паліцыяй—у кампаніі сваіх таварышоў—з бомбамі ў руках; яны, як думаюць, падгатаўлялі замах на б. дыктатара Літвы Вальдэмараса, які меў праехаць праз гэтую мясцовасьць, варачаючыся з Жэнэвы. Але нямецкі суд разглядаў толькі справу „хаваньня ў сябе недазволеных выбуховых матэрыялаў", не зачапляючы зусім палітычнага боку справы, дык і засудзіў падсуднага Плечкайтіса на 3 гады вастрогу, а яго 5 таварышоў—на 2 гады кожнага.

У Баўгарыі адбыліся выбары ў мясцовыя самаўрады. Уся кампанія прайшла—„па балканску": шмат людзей забітых і раненых, а затое ўрадавая партыя, як заўсёды на Балканах, „атрымала" значную большасьць мандатаў. Асабліва востра выступала процi ўрадавага націску баўгарскае сялянства, з якім дзеня-дзе прыходзілася ўрадавым агентам, а часам і войску, вясьці запраўдныя баталіі.

У Гішпаніі ідзе ўсьцяж „падсумоўка" рэзультатаў дыктатуры ген. дэ Рывэры, дарэшты гаспадарча зруйнаваўшае, а палітычна зрэвалюцыянізаваўшае ўсё насяленьне краю. Усьцяж адбываюцца ў цэлым радзе выдатнейшых прамысловых асяродкаў краю—грозныя бунты безработных, якія грабяць крамы з правізіяй і т. д. Паліцыя ледзь стрымлівае націск таўпы. Небясьпечны рух гэты можа лёгкаператварыцца ў рэвалюцыю.

# Ахвяра палітычнае спэкуляцыі.

Ня так даўно орган, блізкі да пасольскага клюбу „Змаганьне", надрукаваў на сваіх старонках паскуднае выступленьне ППС-лявіцы процi беларускага раднага ў віленскім самаўрадзе, грам. Крука за тое, што той на паседжаньні Мястовае Рады патрэбаваў дапамогі для ўдавы Юстына Юхны, работніка, які працаваў на мястовых работах. Юхна, былы грамадавец і сябра Т-ва Беларускае Школы, вёў паўгалоднае жыцьцё, што й давяло яго перадчасна да магілы. Здавалася-бы, што тыя, хто нападаў на грам. Крука і бэсьціў яго добрае імя, павінны былі паруціцца самі аб лёсе безработнае ўдавы Юхны. Аказалася, аднак і што гэныя „дзеячы" толькі выкарысталі пахароны Юхны дзеля палітычнае маніфэстацыі і справакаваньня некалькіх вучняў Віл. Бел. Гімназіі (што павяло звальненьне гэных вучняў віленскім куратарам з гімназіі!), ды на гэтым супакоіліся. Вось доказ гэтага: пісьмо ў Рэдакцыю ўдавы Юстына Юхны:

**У Рэдакцыю Газэты „Наперад".**

Паважаны Грамадзянін Рэдактар!

Дазвольце праз вашу часопісь зьвярнуцца да ўсяго грамадзянства з заклікам аб дапамозе.

Муж мой, б. сябра Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады і Т-ва Беларускае Школы, Юстын Юхна, памёр не пакінуўшы нічога, бо зарабляў на нашае жыцьцё блага аплачыванай фізычнай працай. Пэўная група палітычных дзеячоў выкарыстала пахароны мужа майго дзеля палітычнай дэманстрацыі, але зусім не палічыла за свой абавязак паклапаціцца аб лёсе ягонае ўдавы. Апрача 111 зл. з Касы Хворых на пахароны мужа, я ніскуль ніякае помачы не атрымала. Праўда, радны м. Вільні, грам. Кузьма Крук, запрапанаваў на паседжаньні Мястовае Рады, каб мне была дадзена дапамога ад места, бо нябошчык працаваў на мястовых работах, і гэта Радай было прынята, але магістрат дагэтуль мне нічога ня даў, — а тыя, што лічылі сябе таварышамі Юстына Юхны, яшчэ напалі на грам. Крука і абвясьцілі ў органе „Сьвітаньне" шляхотны пастунак яго — „шантажом".

Ня бачучы іншага выхаду з майго цяжкога палажэньня, я зварачываюся аб дапамозе мне да ўсяго беларускага грамадзянства: **дайце хоць якую працу, каб я мела магчымасьць зарабляць на сваё жыцьцё і не памерці з голаду!**

*Зофія Юхна.*

*18. II. 1930.*

Мы горача падтрымліваем гэту просьбу Зофіі Юхны перад усім нашым грамадзянствам.

*Рэд.*

# Беларуская акцыя ў віленскай Мястовай Радзе.

*(Гутарка з Радным Кузьмой Круком).*

У сувязі з набліжаючымся канцом мандатам Мястовае Рады ў Вільні, мы зьвярнуліся да адзінага беларускага радыкальнага раднага, грам. Кузьмы Крука, з просьбой выясьніць, якую пазыцыю ён займаў за ўвесь мінулы час у Радзе, і чым выявілася ягоная дзеяльнасьць?

Грам. Крук ахвотна даў нам вычэрпываючыя інфармацыі аб цікаўнай для ўсяго нашага грамадзянства справе. Вось, што ён нам сказаў:

— У пытаньні **нацыянальным** я ад першага ж паседжаньня сучаснага складу Мястовае Рады заняў зусім выразнае становішча, як прадстаўнік беларусаў. Дзякуючы гэтаму Рада й прызнала права да ўжытку беларускае мовы на паседжаньнях сваіх, і я ўвесь час меў магчымасьць прамаўляць пабеларуску.

Згодна з жаданьнем беларускага грамадзянства, якое выставіла маю кандыдатуру на раднага, я ўносіў у Раду цэлы рад прапазыцыяў, датычачых беларускіх культурных патрэбаў. На-жаль, правадзіць гэтыя прапазыцыі ў Радзе было трудней, чым падаваць іх. Гэтак правалілася мая прапазыцыя выасыгнаваць грошы на дапамогу беларускім каапэратыўным курсам,—трэба адзначыць, што правалілася яна пры чынным выступленьні процi яе з боку ППС. Удалося правясьці толькі дзьве асыгноўкі: на дапамогу прытулку пры Віл. Бел. Гімназіі ў ліку 2.000 зл. і на культурна-асьветныя патрэбы беларусаў (для Бел. Навуковага Т-ва)—у ліку 6.000. Апошняя асыгноўка прайшла абрэзаная напалавіну (ў ліку 3.000), што было зроблена з ініцыятывы радных з ППС, палічыўшых 6.000 „залішне вялікай" сумай... Ну, ды і гэтых 3.000 зл. беларусам дагэтуль ня выплацілі!

Наагул, адносіны Мястовае Рады да беларусаў—больш нэгатыўныя. Нам кажуць, што ў нас няма ўстаноў, на якія Места магло-бы даваць грошы. Але-ж няма іх затым якраз, што ані даўней не давалі іх беларусам, ані цяпер не даюць, дык як-жа яны бяз грошы могуць паўстаць і выявіць хоць-якую дзеяльнасьць? Творыцца нейкае зачараванае кола, з якога выхаду ня відаць. А ня відаць, бо няма добрае волі ўбачыць яго...

Лепшыя вынікі ўдавалася атрымліваць у галіне **работніцкіх** спраў. Мне ўвесь час пераважна прыпадала ініцыятыва прапазыцыяў у самых рознародных пытаньнях работніцкага жыцьця, з якімі я выступаў у паразуменьні з сябрамі левага блёку („незалежнымі сацыялістамі і лявіцай ППС). Праўда, дзякуючы згодніцкаму становішчу радных з ППС—правіцы, якія адным вочкам зіркаюць усьцяж направа, поўнасьцяй правадзіць лявіцовыя прапазыцыі ўдавалася даволі рэдка. Гэтак, прыкладам, у справе павялічэньня падзённае платы работнікам, занятым на мястовых работах, мы, левы блёк, трэбавалі падбаўкі 1 зл. 30 гр у дзень, але правіца ППС зьбіла гэту суму да 75 гр у дзень. Пры канфліктах з работнікамі мне даводзілася выступаць у абароне работніцкіх інтарэсаў і дабівацца тварэньня адумысных камісіяў дзеля разгляду й ліквідацыі канфліктаў. Урэшце, каб унармаваць адносіны з работнікамі на каналізацыйных работах была створана камісія дзеля абрэвізаваньня гэтых работ. Паўтараю: у-ва ўсей маей дзеяльнасьці на груньце абароны работніцкіх інтарэсаў я ўвесь час стаяў на груньце поўнае салідарнасьці з „незалежнымі сацыялістамі" (група Заштовта) і ППС—лявіцай (радны Дзідзюль).

— Дык чым-жа растлумачыць тое напастлівае пісьмо лявіцы ППС, якое было надрукавана процi Вас у газэце „Сьвітаньне"?—спыталіся мы ў раднага Крука.

— Для гэткае напасьці з боку ППС—лявіцы я не даваў ніякага поваду,—адказаў грам. Крук.—Мы заўсёды лёгка ўзгаднялі нашы прапазыцыі—апрача тых, якія выходзілі па-за межы Мястовае Рады і яе кампэтэнцыі. А што датычыць справы маей прапазыцыі ў Радзе, каб была дадзена дапамога ўдаве Юстына Юхны,—дык мяне прасілі зрабіць гэта таварышы Юхны—работнікі, якія сабраўшыся перад Магістратам і выклікаўшы мяне на вуліцу, разам з другімі сваімі справамі ўзлажылі на мяне й гэтую. Тут-жа, на вуліцы, мы з работнікамі ўстанавілі навет разьмер сумы дапамогі, якую я мусіў патрэбаваць для ўдавы Юхны ад Мястовае Рады. І прапазыцыя мая была прынята Радаю. Магчыма, што напасьць на мяне зроблена затым, што паслухаўся беспасярэдняга голасу работнікаў, а не зварачаўся да „партыйнікаў"...

— Справа ясная! Але як Вы, грамадзянін радны, глядзіцё на дамаганьне ППС—лявіцы, якая трэбуе, каб Вы зракліся свайго мандату? — спыталіся мы ізноў.

— Ну, гэта дык выглядае неяк камічна,—адказаў радны Крук.—З такім трэбаваньнем ППС—лявіца можа зварачацца да сваіх партыйных людзей, але не да мяне, бо я ніколі да гэтае партыі не належаў. У Мястовую Раду я прайшоў, як **прадстаўнік беларускіх радыкальных элементаў з грамадаўскай ідэалёгіяй.** Дый мая дэкларацыя, прачытаная пры адкрыцьці Рады ў сучасным яе складзе і надрукаваная ў свой час ў грамадаўскай прэсе, ясна паказвае на маё **незалежнае становішча ў Радзе.** Дык ясна, што ані ППС—лявіца ня можа цяпер трэбаваць зрачэньня мандату, ані хто-небудзь іншы, апрача тых беларусаў, якія высунулі маю кандыдатуру ў радныя. Ані ад іх, ані ад работніцкіх масаў беспасярэдна я ніякіх знакоў недаверыя ня бачыў.

І. М.

# Хроніка.

× **Хто стараўся аб культурныя крэдыты для беларусаў?** Дзеля таго, што ў справе прынятых Соймам крэдытаў на беларускія культурна-асьветныя патрэбы некаторымі асобамі пускаюцца непраўдзівыя весткі,—сьцьвярджаем на падставе соймавых афіцыяльных друкаў, што:

крэдыт у ліку 200.000 зл. на даканчэньне будовы гмаху пад Наваградзкую беларускую гімназію і бурсу пры ёй прыняты на прапазыцыі паданыя паасобку пасламі: д-ра Яна Станкевіча, Фабіяна Ярэміча і Стыпіньскага (апошні з „Б. Б.");

крэдыт у ліку 100.000 зл. на белар. вучыцельск. сэмінарыю і 150.000 зл. на белар. вучыцельскія курсы—на прапазыцыі паданыя пасламі: д-ра Яна Станкевіча і Фабіяна Ярэміча;

крэдыт у ліку 50.000 зл. на друкаваньне беларускіх школьных падручнікаў—на прапазыцыю пасла Ф, Ярэміча. Ці за гэтыя грошы будзе друкаваць кніжкі сам урад (як гэта было з скандальным „Лемантаром" Любіч-Маеўскага), ці дасьць якой грамадзкай арганізацыі,—няма ведама.

Гожа адзначыць, што падобныя прапазыцыі ўкраінскіх і жыдоўскіх паслоў не сабралі пры галасаваньні вымаганае лічбы галасоў і гэтак не прайшлі ў Сойме.

× **Адкрыцьцё Інстытуту дзеля досьледаў Усходняе Эўропы.** У нядзелю, ў 5 гадзін увечары, адбылося ў Вільні ўрачыстае адкрыцьцё названага Інстытуту, як навукова-дасьледчае ўстановы, і вышэйшае школы пры ім. Адкрыцьцё адбылося пры ўчасьці міністра асьветы Чэрвінскага.

Сярод намечаных на бліжэйшы час лекцыяў ёсьць ужо вызначаньня лекцыі беларускіх і украінскіх прафэсароў. З беларусаў атрымаў запросіны прачытаць тры лекцыі д-р Ян Станкевіч.

× **Ангельскі госьць у Вільні.** Гэтымі днямі прыяжджаў у Вільню сэкрэтар Міжнароднай Студэнскай Помачы („International Student Service") п. І. Паркэс у справах меншасьцёвых Віленскага Унівэрсытэту і 23 г. м. наведаў Беларускую, Літоўскую і Украінскую студэнскую моладзь, адбыўшы з імі супольна спэцыяльную конфэрэнцыю. Ангельскага госьця нашы студэнты падробна паінфармавалі аб палажэньні няпольскага студэнства ў Віленскім Унівэрсытэце, а так-жа аб палажэньні нацыянальных меншасьцяў у Польшчы наагул. Пасьля п. І. Паркэс быў прысутны на супольнай гарбатцы, ладжанай беларускімі, літоўскімі і ўкраінскімі студэнтамі, адкуль вынес даволі добрае ўражаньне.

× **Выстаўка ручных работ вучаніц Віл. Белар. Гімназіі.** Вырабы вучаніц Гімназіі, якія былі выстаўлены ў гмаху Гімназіі падчас апошняе вечарыны, выяўляюць шмат добрага густу і старанасьці ў маладых працаўніц і ў іхняй кіраўніцы вучыцелькі Алёны Сакаловай-Лекант, зладзіўшай выстаўку. Вырабы гэтыя — пераважна вышыўкі й вязаньні. Усе яны на наступнай вечарыне—разам з цэлым радам іншых прадметаў (жывы трусік, сала, начыньне, цукеркі і інш.)—будуць разыграны ў лятарэі, як фанты, на карысьць незаможных вучняў Гімназіі. Цана білету—50 гр.

× **Вучнёўскі суботнік.** У суботу 1-га сакавіка адбудзецца ў салі Віл. Беларускай Гімназіі Вучнёўскі Суботнік, у праграму якога ўвойдзе 1) камэдыя „Пакой у наймы" і 2) камэдыя Родзевіча „Зьбянтэжаны Саўка" з удзелам гр. Сіняўскага ў галоўнай ролі. Пасьля прадстаўленьня — скокі пад духавы аркестр. Пачатак а 7 з паловай гадз. увечары. Уваход выключна па запросінах.

× **Рост безрабоцьця ў Вільні.** За апошнія тыдні сыстэматычна ўзрастае лічба безработных у Вільні, што выклікана сталым заміраньнем гаспадарчага жыцьця ў сталіцы Заходняе Беларусі. Паводле апошніх афіцыяльных даных у Вільні лічыцца цяпер 4,540 безработных (3.490 мужчын і 1.050 жанчын). Не памагае эміграцыя заграніцу, бо толькі малая частка можа там знайсьці работу. Гэтак, за апошні месяц выехалі ў Францыю на работу ў капальнях зялезнае руды й вугальля — 290 асоб, а гэтымі днямі лічба гэтая мае дайсьці 300. А рэшта? — Рэшта абівае парогі магістрату, куды ўсьцяж пасылае сваіх дэлегатаў, — але і места ня ў сілах даць ім работу, бо ня мае на гэта грошы...

× **Прысуд над б. грамадаўцам.** Наваградзкім акружным Судом засуджаны на 2 гады вастрогу Янка Смаляк, з в. Бароцін, Гарадэчанск. гм. былы старшыня гуртка „Грамады". У Смаляка знайшлі ў гумне праціўдзяржаўную літэратуру.

× **Скасаваньне прысуду ў справе б. пасла Шапеля.** Былы пасол Антон Шапель, сябра Незалежнай Хлопскай Партыі, за прыналежнасьць да апошняе быў засуджаны віленскім акружным судом на 6 гадоў катаржнае турмы. Прысуд гэты быў зацьверджаны і віленскім апэляцыйным судом. Аднак, Шапель падаў на гэтую пастанову жалабу ў найвышэйшы суд у Варшаве, які загадаў варшаўскаму апэляцыйнаму суду перагледзець справу нанова. І вось 20 лютага варшаўскі апэляцыйны суд вынес прыгавор, якім зусім скасаваў віленскія прысуды і звольніў Шапеля ад кары.

Шапель усё-ж адседзіў у вастрозе два гады.

